# НАША СВАБОДА

№21(108) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

21 ЛЮТАГА 2001 года
СЕРАДА



Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com


КОШТ СВАБОДНЫ




## «Русское радио» дабралася да Беларусі

Кірэй МАНУЙЛА

Бліжэйшым часам у Беларусі з'явіцца чарговая рускамоўная FM-радыёстанцыя. Гэта будзе «Русское радио», якому беларускім міністэрствам сувязі аддадзеная частата 98,9 FM.

Кіраўнікі «Русского радио» плануюць спярша вяшчаць толькі на Мінск, а другой чаргой ахапіць абласныя цэнтры. У Мінску будзе ладзіцца не рэтрансляцыя, а створыцца своеасаблівы — з мясцовымі навінамі і рэкламай — філіял, якіх у «Русского радио» багата не толькі па Расіі, але і па Украіне і нават Прыбалтыцы. Першым часам «Русское радио», прапісанае ў беларускай сталіцы, зойме не кругласутачны эфір, а толькі да апоўначы.

Але многім беларусам, якія пасля закрыцця Радыё 101,2 ужо некалькі гадоў не маюць мажлівасці слухаць сапраўднае беларускае радыё, ад гэтага не лягчэй. ■

## Рэчдоказы па справах зніненняў людзей — таямніца

Вячаслаў БУДКЕВІЧ

На прэс-канферэнцыі 20 лютага начальнік Дзяржаўнага экспертна-крымінілістычнага цэнтра МУС Беларусі палкоўнік Вячаслаў Кудраўцаў адмовіўся распавядаць журналістам аб выніках экспертызы рэчавых доказаў, што праходзяць па справах аб зніненні аператара ОРТ Дзмітрыя Завадскага і былога апазіцыйнага палітыка Віктара Ганчара (разам з ім, як вядома, знік прадпрымальнік Анатоль Красоўскі). Пытанне ўзнікла і па знойдзенай сапёрнай лапатцы са слядамі крыві па справе Завадскага, а на месцы знікнення В.Ганчара — асколкі фары і плямы крыві.

В.Кудраўцаў заявіў на гэты конт, што «і тое, што канфіскавалася пры аглядзе месца здарэння (гэта толькі следчы можа прызнаць іх рэчавымі доказамі, а ці прызнаў ён іх такімі, трэба спытацца ў яго), і тое, што нам уяўлялася на дасьледаванні... знаходзіцца таксама ў матэрыялах крымінальнай справы». ■

БелаПАН

## Заявление Совета Международного института политических исследований

В течение последнего времени в программе Белорусского телевидения «Резонанс» приводились данные опросов общественного мнения, проведенных якобы при участии Международного института политических исследований. В связи с этим считаем необходимым заявить, что Международный институт политических исследований, официально зарегистрированный министерством юстиции Республики Беларусь, не проводит социологических опросов, не имеет никаких отношений с программой «Резонанс» и потому не может нести ответственность за озвученную в данной телепрограмме информацию.



● Навагрудак, люты. Калісьці званочкі, а цяпер гумавыя шарыкі паведамляюць пра вясělле

Фота REX/ProMedia

# Сергей Ковалев считает, что Кремль может захотеть избавиться от Лукашенко

**«Лукашенко имеет весьма отработанные с советского времени механизмы давления на общественное мнение, на решение политических проблем. А белорусская оппозиция разобщена, ее представители между собой не могут договориться, как всегда и бывает с демократами»,— так оценивает видный российский политик и правозащитник Сергей Ковалев ситуацию в Беларуси.**

***— Сергей Адамович, как вы думаете, решится ли Кремль сделать собственные ставки в предстоящей белорусской кампании по выборам президента? Может ли Кремль поставить на кого-то другого, не на Лукашенко?***

— Знаете, это все тайны мадридского двора, которыми занимаются московские политтехнологи и сценаристы... Не так давно я читал статью одного в общем-то очень наблюдательного журналиста, который заметил, что Путин с Лукашенко разговаривает холодно. С кем-то он целуется-обнимается, а с этим только «ручкается». Довольно вероятно, между прочим, на самом деле, что Кремль не поддержит Лукашенко. Лукашенковский грубый напор достаточно многим в Москве мешает, он некомфортен, заставляет стесняться, пожимать плечами. Он ведь у вас человек неумный, грубый и прямолинейный. Чего не отнимешь, того не отнимешь — он достаточно искренен в своих высказываниях, то есть он может плести какие-то интриги против своих неприятелей, но своего отношения спрятать не может. Это довольно многим в Москве не очень нравится. Потом, уже утвердилась за ним очень скверная репутация. Я вполне допускаю, что наши московские дельцы вроде того же Путина захотят от него избавиться. Беларусь для них заманчивый кусок, попрочнее привязать его к России хочется, а иметь такого несговорчивого партнера, который и взбрыкнуть может или отмочить какую-нибудь совершенную глупость... Россия и сама не прочь поиграть в конфронтацию с Западом, но она знает меру, а ваш Лукашенко этой меры не знает. Поэтому он довольно неудобен. Не знаю, как Путин, а Ельцин морщился. Это я знаю. И вы помните, как настойчиво давил Лукашенко и как Москва отодвигала сроки подписания союза. ►

*Окончание на стр.3*

# Столкновение подстаканников

## Как поссорились Иван Иванович с Владимиром Петровичем

Александр ДУБРАВИН

Боже ж мой, какой приятный человек Иван Иванович Пашкевич! Какой это обходительный и деликатный придворный сановник! Какой несравненный вид у него, в некотором роде весьма округлый и упитанный! Пиршество очей! Стоит посмотреть, как он выступает — плавно и важно — в свите Александра Григорьевича, слегка изогнувшись в поясе, дерзко отведя мяконькие ручки в стороны, ставя ногу на носок так, словно он, прости Господи, какой-нибудь Марис Лиепа неземной, неся свое обширное естество строго перпендикулярно ковровой дорожке, не толкая других сановников в их красные потные рыла и не наступая на руки тем, кто ползет на четвереньках. Как обожают его дамы из лечкомиссии и продуктового распределителя, как боготворят семейства чада и домочадцы!

Иван Иванович всегда в центре внимания. Все хотят прикоснуться к мягким бокам его, все хотят услышать талантливые речи его. Каким умом блещут очи, какой нравственностью веет от каждого мановения руки! А как говорит, чу! прислушайтесь к журчащим накатам его, в которых ласкает слух обилие хороших слов. А как саркастически умеет высмеять Иван Иванович какого-нибудь бюрократа! Тихо так, про себя, чтобы никто не слышал. Жванецкий! Подлинно Жванецкий, скажу я вам. Чиновники, так те просто не мыслят себе иного начальника, величают за глаза его отцом родным, денно и нощно молятся за здравие, а другими начальниками манкируют. Так и говорят какому-нибудь сизорылому горепашному могилевцу, неотесанному подлецу, не имеющему понятия об изысканных номенклатурных приемах для обращения: «Или давайте нам Ивана Ивановича в качестве смотрящего, или прибавляйте пятерку к зарплате». ►

*Окончание на стр.5*

## НАВІНЫ

■ **Улады Крычава звярнуліся да кіраўніцтва Смаленскай вобласці па «брацкую» дапамогу супраць крычаўскай незалежнай газеты «Вольны горад».** У прыватнасці, у звароце ўтрымліваецца просьба «прыняць захады па спыненні друкавання газеты», бо яна «ўсяляк аблівае брудам саюз Беларусі і Расіі і ачарняе братнюю інтэграцыю славянскіх народаў». Нагадаем, што супраць «Вольнага горада» ўзбуджаная крымінальная справа за быццам бы незаконную прадпрымальніцкую дзейнасць.

■ **У Магілёве здарыўся трагічны выпадак: сабакі загрызлі чалавека.** Вартаўнік аднаго з прадпрыемстваў знайшоў у сметніку знявечанае чалавечае цела. Прыбыўшая на месца жудаснай знаходкі міліцыя высветліла, што гэта труп жанчыны, загрызенай сабакамі. Яшчэ пазней стала вядома, што напярэдадні вечарам з гасцініцы «Сігнал», размешчанай паблізу, чулі сабачы брэх і крыкі кабеты.

■ **19 лютага ў магілёўскім акцыянерным таварыстве «Абутак» адбыўся выбух.** Ён здарыўся прыкладна праз 10 хвілінаў пасля таго, як працаўнікі фабрыкі паставілі разагравацца ў печ ёмістасць з клеем вагой 16 кілаграмаў. У выніку выбуху былі пашкоджаныя перагародкі з сумежнымі памяшканнямі і пабілася шкло. Фабрыка была спыненая, але ахвяраў, на шчасце, няма.

■ **Савет развіцця прадпрымальніцтва Брэсцкага раёна звярнуўся да мясцовых дзяржаўных прадпрыемстваў і прыватных фірмаў з просьбай фінансава дапамагчы калгасам у правядзенні веснавых палявых работ.** Галоўная праблема сельскай гаспадаркі – гэта закупка паліва. Для забеспячэння палівам Брэсцкай вобласці неабходна 30 мільярдаў рублёў. Дарэчы, ва ўрадзе кажуць, што гэтай вясной камерцыйныя банкі не будуць прымушаць фінансаваць суб'екты аграпрамысловасці.

■ **У панядзелак у Магілёве распачаўся фестываль маладзёжнага і дзіцячага кіно. Мерапрыемства арганізаванае абласным аб'яднаннем «Кінапракат», а таксама кінавідэапрадпрыемствам «Позірк».** У праграме фестывалю пакажуць такія досыць вядомыя фільмы, як «Зорка Венера», «Маленькі баец» (абедзве стужкі зняты рэжысёрам Маргарытай Касымавай), «Студэнцкія вакацыі», «Армія выратавання».

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Крыніца: www.yahoo.com

## Курс наяўнага долара на «чорным рынку»

1240

# Беларускія аўтазаводы аб'ядноюцца з «ГАЗам»

Алег САКАЛОЎ

Беларускія прадпрыемствы ўвойдуць у склад найбуйнейшага ў Расіі холдынга аўтамабілебудаўнічых і машынабудаўнічых заводаў, які плануецца стварыць на базе адкрытага акцыянернага таварыства «ГАЗ» (Ніжні Ноўгарад). Пра гэта Ніжагародскаму тэлеграфнаму агенцтву паведаміў прэзідэнт ААТ «ГАЗ» Мікалай Пугін.

Паводле ягоных словаў, зараз праект знаходзіцца ў стадыі фарміравання нарматыўна-прававой дакументацыі. Мэта стварэння холдынга – вытворчасць грузавых і легкавых аўтамабіляў, а таксама аўтамабіляў цяжкага і сярэдняга класаў. М.Пугін зазначыў, што вельмі важна, каб дзяржава прыняла долевы ўдзел у стварэнні холдынга, з тым, каб пралабіраваць інтарэсы прамысловасці. Хто будзе валодаць кантрольным пакетам акцыяў будучага холдынга, пакуль невядома.

Мікалай Пугін паведаміў, што ў склад холдынга ўвойдуць ААТ «ГАЗ», АТ «Паўлаўскі аўтобус», Арзамаскі машынабудаўнічы завод, ААТ «Заволжскі маторны завод», Яраслаўская група аўтазаводаў, Уральскі аўтамабільны завод, Мінская група аўтазаводаў, у прыватнасці, мінскія аўтамабільны завод і завод колавых цягачоў, а таксама прадпрыемствы па вытворчасці будаўнічай і дарожнай тэхнікі і прадпрыемствы, якія вырабляюць тэхніку для абслугоўвання камунальнай гаспадаркі. ■

БелаПАН

# Скараціліся пастаўкі расійскай нафты

Вікторыя МЯЖЫЕВА

Сёлета пастаўкі расійскай нафты ў Беларусь скараціліся. Так, з 1 студзеня па 12 лютага на беларускія нафтаперапрацоўчыя заводы (НПЗ) паступіла 1.374 тысячы тон нафты, што на 13% менш, чым за аналагічны леташні перыяд.

Як заяўляюць спецыялісты канцэрна «Белнафтахім», гэты факт «ні ў якім выпадку нельга лічыць пагаршэннем работы канцэрна з расійскімі нафтавымі кампаніямі». Эксперты таксама адзначаюць, што ў цэлым аб'ёмы паставак адпавядаюць дамоўленасцям, дасягнутым паміж урадам Беларусі і міністэрствам паліва і энергетыкі Расіі.

Зараз канцэрн «Белнафтахім» закупляе ў Расіі нафту па 115-118 долараў ЗША за тону, у той час як у канцы мінулага года тона расійскай нафты абыходзілася Беларусі ў 175-179 долараў. ■

БелаПАН

# Прадпрыемствы Магілёўшчыны сталі працаваць горш

Канстанцін УВАРАЎ

Прамысловыя прадпрыемствы Магілёўскай вобласці ў студзені гэтага года не змаглі выйсці на леташні ўзровень вытворчасці. Згодна са статыстычнымі звесткамі, у студзені 2001 года прамысловасць вобласці на 3% знізіла аб'ём вырабляемай прадукцыі да аналагічнага леташняга ўзроўню. Запасы гатовай прадукцыі на складах за першы месяц года павялічыліся больш чым на 17%, узраслі страты працоўнага часу.

Галоўныя праблемы, з якімі давялося сутыкнуцца прамыслоўцам вобласці сёлета, сталі дэфіцыт камплектуючых і цяжкасці са збытам прадукцыі. ■

БелаПАН

# Беларусь мае 580 мільёнаў долараў

Ірына САЗАНОВІЧ

Кошт усёй беларускай грашовай масы, наяўнай і безнаяўнай, зараз складае ў эквіваленце каля 580 мільёнаў долараў ЗША. Гэта не больш чым 2 працэнты ад кошту грашовай масы, якая знаходзілася ў абароце на тэрыторыі Беларусі ў 1990 годзе. Такія звесткі паведаміў БелаПАН дырэктар навукова-эканамічнага прадпрыемства «Экон», старшыня Міжнароднага клуба дырэктараў пры Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі Яўген Доўгель.

Па яго разліках, адносіны сумы беларускіх рублёў да аб'ёму валавога ўнутранага прадукту краіны складаюць у Беларусі каля 7-8 працэнтаў, тады як у развітых краінах гэты паказчык роўны 70-80 працэнтаў, а ў дзяржавах, што развіваюцца, - 18-20 працэнтаў. Інфляцыя, як адзначае эксперт, пазбавіла нацыянальную грашовую адзінку найважнейшых уласцівасцяў грошай — быць мерай цэн і кошту, сродкам накаплення, абароту і плацяжу ў знешнеэканамічных разліках. «З-за празмерных грашовых эмісіяў у выглядзе крэдытаў, якія нічым не забяспечаныя і не плануюцца да вяртання, у краіне практычна зніклі нацыянальныя грошы ў эканамічным сэнсе гэтага слова», — лічыць Доўгель.

Сёння, паводле яго словаў, Беларусь працуе «без меры кошту ў нацыянальнай эканоміцы»: цэны на прадукты і тавары растуць толькі ў беларускіх рублях, а адміністрацыйнае іх стрымліванне ва ўмовах інфляцыі рубля выклікае скажэнне ўліку. Аналіз жа дынамікі цэнаў з пералікам у долары ЗША або іншыя стабільныя валюты паказвае, што цэны ў Беларусі на многія тавары ўжо даўно зніжаюцца і ствараюць прадпрыемствам страты. Акрамя таго, востра не хапае грошай як сродку абароту. У выніку прадпрыемствы не могуць набываць сыравіну, матэрыялы, камплектуючыя і прадаваць сваю прадукцыю акрамя як па бартэрных схемах. У сваю чаргу, бартэр прыносіць нацыянальнай эканоміцы вялікія выдаткі.

У мэтах накаплення і абароту ўнутры краіны суб'ектам гаспадарання і грамадзянам даводзіцца набываць і назапашваць замежныя валютныя сродкі. Па падліках эксперта, іх агульная сума ў аб'ёме сукупнай грашовай масы ў дзяржаве складае каля 60 працэнтаў, прычым значная частка замежнай валюты захоўваецца ў насельніцтва і цыркулюе ў няўлічаных абаротах. ■

БелаПАН

ЗУБР




# Супрацьсектанцкая рэабілітацыя

Ірына ШАНЦАВА

19 лютага паводле запрашэння гомельскай епархіі Беларускай праваслаўнай царквы ў Гомель прыбыў кіраўнік Маскоўскага цэнтра рэабілітацыі ахвяраў нетрадыцыйных рэлігіяў і наркаманіі іерэй Алег Сцяняеў.

За тры дні знаходжання ў Гомелі ён плануе выступіць з лекцыямі перад студэнтамі ўсіх пяці мясцовых ВНУ. 19 лютага Алег Сцяняеў правёў сустрэчу са старшынём гомельскага абласнога савета па справах рэлігіяў Уладзімірам Кляўцовым, ад якога пачуў запэўніванні ў тым, што ў Гомельскай вобласці ні дэструктыўных сектаў, ні іх ахвяраў няма. Аднак у праваслаўнай епархіі прытрымліваюцца іншага пункту гледжання, што і з'явілася падставай для запрашэння Алега Сцяняева.

Паводле словаў іерэя, цэнтр, які ён узначальвае, вярнуў да нармальнага жыцця больш чым 1.200 маладых людзей, якія былі ўцягнутыя ў розныя нетрадыцыйныя веравызнанні. Прыкладна кожны трэці з іх потым стаў праваслаўным хрысціянінам. Алег Сцяняеў сцвярджае, што заканадаўства і ў Расіі, і ў Беларусі не здольнае супрацьстаяць ілжэрэлігіям, а барацьба з імі абмяжоўваецца толькі супрацьстаяннем саміх вернікаў. ■

БелаПАН

# Сыну Чыгіра прад'яўленае абвінавачанне

Генадзь БАРБАРЫЧ

19 лютага прад'яўленае абвінавачанне сыну экс-прэм'ера Беларусі Міхаіла Чыгіра Аляксандру, які знаходзіцца ў следчым ізалятары ГУУС Мінгарвыканкама.

Як паведамілі БелаПАН у прэс-цэнтры МУС, следчым упраўлення Следчага камітэта пры МУС Рэспублікі Беларусь Аляксандру Чыгіру прад'яўленае абвінавачанне па артыкуле 205, частка 4 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь – тайны крадзеж маёмасці, учынены паўторна групай асобаў у асоба буйных памерах.

Нагадаем, што Аляксандр Чыгір, Сяргей Каляда і Васіль Быкаў былі затрыманыя 10 лютага на адным з аўтарынкаў сталіцы. Следства сцвярджае, што некаторыя з запчастак знятыя з выкрадзеных аўтамабіляў, абвінавачваючы ў дачыненні да гэтых крадзяжоў Аляксандра Чыгіра.

Ці прад'яўленае абвінавачанне Сяргею Калядзе, які таксама знаходзіцца ў следчым ізалятары, і Васілю Быкаву, адпушчанаму некалькі дзён таму пад падпіску аб нявыездзе, пакуль невядома.

Маці Аляксандра Чыгіра Юлія Чыгір даведалася ад карэспандэнта БелаПАН аб тым, што яе сыну прад'яўленае абвінавачанне (з Міхаілам Чыгіром звязацца сёння не ўдалося). Яна мяркуе, што пакуль не пройдуць прэзідэнцкія выбары, сына будуць трымаць пад вартай і абвінавачваць па тэлебачанні. Разам з тым яна выказала сумненне, што справа трапіць у суд, паколькі яна таго ж бяздоказнага характару, як і крымінальная справа Міхаіла Чыгіра. «Я думаю, што наш сын не распешчаны і пройдзе, як і ягоны бацька, усе выпрабаванні з годнасцю», – сказала Юлія Чыгір. ■

БелаПАН

# Судьям не нравится адвокат

Наталья РАДИНА

19 февраля в Гомеле продолжился судебный процесс над бывшим ректором Гомельского мединститута Юрием Бандажевским.

Напомним, что слушание уголовного дела в отношении сотрудников Гомельского государственного мединститута должно было начаться еще 13 февраля, но из-за ухудшения здоровья одного из обвиняемых, бывшего проректора мединститута Владимира Равкова, суд был отложен. Разбирательство «дела Бандажевского» ведет военная коллегия Верховного суда РБ. Профессора с мировым именем обвиняют в получении взятки от студента.

На состоявшемся заседании суда адвокат Ю.Бандажевского просил допросить в качестве свидетеля посла Беларуси в США Валерия Цепкало (до того, как стать дипломатом, В.Цепкало работал в президентской комиссии по контролю за ходом вступительных экзаменов в Гомельском мединституте).

Адвокат также потребовал допросить заместителя министра здравоохранения Александра Курченкова и одного из руководителей Гомельского управления КГБ. Но председатель военной коллегии ВС Владимир Сукач отклонил ходатайство, объяснив, что «допрос этих свидетелей не способствует прояснению обстоятельств».

Суд также не допустил к участию в процессе известного адвоката Гарри Погоняйло, мотивировав это тем, что он не является членом государственной коллегии адвокатов. Г.Погоняйло полагает, что суд умышленно избегает привлечения к делу независимых защитников.

Запретили выступить в роли защитника и жене Владимира Равкова. Более того, её даже не пустили в зал заседания. Адвокату В.Равкова было отказано в ходатайстве об изменении меры пресечения его подзащитному. Дело в том, что В.Равков провел в следственном изоляторе уже 19 месяцев, и сегодня срок его содержания под стражей был продлен до 1 апреля 2001 года.

И это несмотря на то, что 14 февраля врачебная комиссия обнаружила у Равкова серьезные нарушения в работе сердца. Коллегия проигнорировала рекомендации о госпитализации В.Равкова, сославшись на медицинскую справку медчасти Гомельского облисполкома о том, что состояние здоровья пациента удовлетворительное. ■

# Штраф за любоў

Кірыла ПАЗЬНЯК

19 лютага ў Цэнтральным судзе Мінска адбыўся суд над лідэрам Маладога Фронту Паўлам Севярынцам, які абвінавачваўся паводле часткі 2 артыкула 167 Адміністрацыйнага кодэкса ў арганізацыі 14 лютага на Дзень святога Валянціна несанкцыяванага мітынгу на плошчы Свабоды і шэсця да Круглай плошчы.

Нагадаем, што Севярынец быў затрыманы 16 лютага пасля двухсутачнай аблогі штаб-кватэры БНФ, дзе ён хаваўся па сканчэнні акцыі «Любові! Свабоды! Пераменаў!» Каля сядзібы ўвесь час дзяжурылі міліцыянты. У гэты ж дзень і пачаўся суд над ім, але быў адкладзены, бо на працэс не з'явіўся адзін са сведкаў-міліцыянтаў. Да таго ж суддзя Паўлючук захацела паглядзець відэастужку, знятую на акцыі.

19 лютага суддзя зачытала ажно дзесятак напісаных пад капірку рапартоў, дзе сярод абвінавачванняў супраць Севярынца было і тое, што старшыня МФ трымаў у руках сцяг Еўрасаюза. Міліцыянты сведчылі таксама, што Севярынец выгукваў «Жыве Беларусь!» і заклікаў моладзь рушыць да плошчы Перамогі, але на прагледжаным відэафільме гэтага зафіксавана не было. Тым не менш вырак – штраф у 150 мінімальных заробкаў (гэта каля 500 долараў). ■

# У абарону работнікаў СПБ

Юрась ХМЯЛЬНІЦКІ

Савет «пярвічнай» арганізацыі работнікаў ВА «Шкловалакно» ў Наваполацку Свабоднага прафсаюза Беларускага звярнуўся да старшыні СПБ і мае намер звярнуцца да старшыні КНГ АБСЕ пра абарону сябраў СПБ Уладзіміра Стукава, Мікалая Шараха і Аляксея Бучынскага ад дыскрымінацыі з боку адміністрацыі завода.

Праблема заключаецца ў тым, што з 1 лістапада па 1 лютага 2001г. 90% работнікаў завода былі пераведзеныя на кантрактную сістэму (на заводзе працуюць 4.000 чалавек). Частка работнікаў—членаў СПБ не перайшлі на кантракт, бо палічылі яго ўмовы непрымальнымі і прапанавалі свае змены — дырэктар адмовіўся іх прыняць.

Аднак адміністрацыя прыняла свае меры – праца работнікаў, якія не падпісалі кантракт, ацэньваецца на 30% меней, хаця якасць і не саступае.

У сувязі з гэтым працаўнікі ўпэўненыя, што такія меры з'яўляюцца дыскрымінацыяй. ■

# У Баранавіцкім раёне металічны бум

Валянціна КАЗЛОВІЧ

На працягу мінулага тыдня невядомыя скралі каля 2 тысячаў метраў алюмініевых правадоў у Баранавіцкім раёне Брэсцкай вобласці. Як паведамляе прэс-служба УУС Брэсцкага аблвыканкама, «пацярпелі» 10 жалезабетонных апірышчаў паветраных ліній электраперадачаў каля вёскі Лебяжаны. З іх, як мяркуецца, у перыяд з 9 па 14 лютага дэманціраваны 1.760 метраў правадоў.

Крадзеж каляровых металаў у Брэсцкай вобласці — з'ява нярэдкая. Так, з помніка ва ўрочышчы Гай у Баранавічах былі знятыя алюмініевыя літары, выкрадзена і не знойдзена мемарыяльная пліта ў гонар Тадэвуша Касцюшкі ва ўрочышчы Марачоўшчына Івацэвіцкага раёна. У Брэсце з двароў пачалі знікаць лаўкі, дэталі якіх зробленыя з металу. Аказалася, што прадпрымальныя людзі вывозяць іх за мяжу. ■

БелаПАН

# Пазьняк можа вярнуцца

Аляксей ЗНАТКЕВІЧ

Соймавая канферэнцыя БНФ «Адраджэньне» (на чале з Зянонам Пазьняком) і Кансерватыўна-хрысціянскай партыі — БНФ, што адбылася ў Мінску 18 лютага, звярнулася да свайго лідэра з заклікам узяць удзел у сёлетніх прэзідэнцкіх выбарах.

Як паведаміў БелаПАН намеснік старшыні арганізацыі Сяргей Папкоў, актывісты партыі і руху будуць збіраць подпісы за вылучэнне Зянона Пазьняка, які зараз знаходзіцца ў эміграцыі, кандыдатам у прэзідэнты. На думку Папкова, рэгістрацыя дала б Пазьняку нейкія гарантыі бяспекі пры вяртанні на радзіму. «Калі яго зарэгіструюць, будзем сустракаць яго ў Брэсце», – сказаў Папкоў.

Прадстаўнікі Кансерватыўна-хрысціянскай партыі – БНФ неаднаразова заяўлялі, што не падтрымаюць магчымага адзінага кандытата ў прэзідэнты, аб якім спрабуюць дамовіцца прадстаўнікі іншых апазіцыйных партыяў. Пры гэтым падкрэслівалася, што астатнія апазіцыйныя партыі недастаткова працуюць, каб абараніць незалежнасць Беларусі. ■

БелаПАН

АКЦЫІ

# Афіша Скарынаўскага цэнтра

Кірыла ПАЗЬНЯК

З уключэннем пасля двухтыднёвага перапынку святла ў Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Францішка Скарыны ладзяць новую шчыльную чараду самых разнастайных мерапрыемстваў. Афіша Скарынаўскага цэнтра на бліжэйшыя дні змяшчае ў сабе тры цікавыя імпрэзы, якія пройдуць у будынку Цэнтра, што месціцца ў Мінску па вуліцы Рэвалюцыйная,15.

Спачатку 27 лютага тут адбудзецца прэс-канферэнцыя, прысвечаная 150-годдзю Янкі Лучыны (сапраўднае імя – Іван Неслухоўскі). Дарэчы, ягоная «Вязанка», якая выйшла ў 1903, — гэта першы зборнік беларускай паэзіі мінулага стагоддзя.

Супрацоўнікі Скарынаўскага цэнтра прадставяць з нагоды юбілея пісьменніка адмысловую праграму акцыяў, што будуць наладжаныя сёлета. А фактычна распачалі яе назоў новай мінскай вуліцы ў гонар Лучыны і выдадзеная напрыканцы мінулага года кніга дырэктаркі Скарынаўскага цэнтра Любові Уладыкоўскай-Канаплянік, якая называецца «Акварэлі любові» (Канцэпцыя нацыянальнага светапогляду ў творчасці Янкі Лучыны). Выданне гэтае пабачыла свет дзякуючы чыннай дапамозе Польскага інстытута ў Мінску і асабіста ягонага дырэктара Цэзарыя Карпіньскага.

1 сакавіка ў Скарынаўскім цэнтры пройдзе беларуска-латышскі «круглы стол», арганізаваны пры ўдзеле амбасадара Латвіі ў Беларусі спадара Эганса Нэйманыса. Змест імпрэзы – параўнаўчы аналіз і абмеркаванне праблемаў сучаснага культурнага развіцця Беларусі і Латвіі, у прыватнасці, за апошняе дзесяцігоддзе.

А 6 сакавіка Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Скарыны запрашае на прэзентацыю выдання «Жыровіцкі лісток». Прагучаць вершы паслушніка жыровіцкага манастыра Алега, вядомага як паэт Алег Бембель альбо Зніч. ■



# Ізраіль рыхтуецца да іракскіх удараў

Міхась КАРПОВІЧ

**Пагрозы Ірака «адпомсціць» Ізраілю за Палестыну былі сур'ёзна ўспрынятыя ў Іерусаліме. У панядзелак на поўдні Ізраіля былі распачатыя амерыканска-ізраільскія вучэнні па адбіцці ракетных удараў.**

Як вядома, Ізраіль шырока падтрымліваецца Злучанымі Штатамі, таму Багдад прагне крыві і за сумесныя бамбардзіроўкі ЗША і Вялікабрытаніі, што адбыліся ў мінулую пятніцу і пацягнулі смерць трох чалавек. Але натуральна, што іракскай арміі ні ў якім выпадку не дацягнуцца да Амерыкі. Ізраіль – іншая справа: ён куды бліжэй.

Афіцыйны Іерусалім паведаміў, што вайсковыя манеўры, што праводзяцца цяпер разам з амерыканскай арміяй, ніякім чынам не звязаныя з узмацненнем напружанасці ў рэгіёне. Па словах прадстаўнікоў міністэрства абароны Ізраіля, вучэнні былі запланаваныя яшчэ год таму.

Галоўная мэта вучэнняў – выпрацоўка ўзаемадзеяння міжнародных на складзе падраздзяленняў і стрэльбы з амерыканскага супрацьракетнага комплексу *Patriot*, які здольны перахопліваць у палёце ракеты праціўніка.

Манеўры набываюць яшчэ большую актуальнасць пасля апошніх выступленняў прэзідэнта Ірака Садама Хусейна, які заклікаў да стварэння арміі добраахвотнікаў для вызвалення Іерусаліма ад «сіяністаў».



Ізраільскія і амерыканскія войскі разам праводзяць супрацьракетныя вучэнні

Эхуд Барак, які дагэтуль афіцыйна выконвае абавязкі прэм'ер-міністра Ізраіля, заявіў, што пагроза Багдада не выклікае сур'ёзных апасенняў. Тым не менш, армія і спецслужбы Ізраіля працягваюць уважліва адсочваць падзеі ў рэгіёне. Па стане на ўчарашні дзень, армія яшчэ не прыведзеная ў стан падвышанай баявой гатоўнасці. Тым не менш, намеснік міністра абароны Эфраім Снэ лічыць пагрозу С.Хусейна рэальнай. Намеснік міністра лічыць, што адсутнасць сур'ёзнага міжнароднага кантролю дазволіла дыктатару займець у іракскай арміі зброю масавага паражэння.

Тым часам, як паведамляюць інфармацыйныя агенцтвы свету, у сувязі з пагрозамі Ірака і амерыканска-ізраільскімі вучэннямі сярод грамадзянаў Ізраіля ўзнік ажыятажны попыт на процівагазы. Па падліках прадстаўнікоў узброеных сілаў, не менш за 10.000 чалавек прыйшлі толькі ў нядзелю на вайсковыя гуртовыя базы, што спецыялізуюцца на распаўсюджванні сродкаў абароны. Базы ледзь вытрымалі такі натоўп, бо лічылася, што туды прыйдзе ў тры разы менш наведвальнікаў. Па словах вайскоўцаў, у панядзелак і аўторак попыт на процівагазы быў не меншы.

Найбольшую зацікаўленасць у сродках абароны грамадзяне праявілі на трэці дзень пасля бамбардзіроўкі Ірака саюзнай авіяцыяй. Дарэчы, шмат хто ў Ізраілі захаваў процівагазы яшчэ з часоў вайны ў Персідскім заліве, што была 10 гадоў таму.

Што ж датычыць Ірака, то ён агучвае ўсё новыя пагрозы. Днямі афіцыйныя прадстаўнікі правячай партыі БААС паведамілі, што калі Саудаўская Аравія і Кувейт будуць і далей прадастаўляць сваю тэрыторыю для размяшчэння вайсковых базаў ЗША, то ракетныя ўдары будуць скіраваныя і супраць іх.

Бамбардзіроўкі, што адбыліся ў пятніцу, вяліся з самалётаў, што месцяцца на амерыканскіх вайсковых базах ва ўзгаданых краінах. Менавіта гэты факт раз'юшыў Багдад настолькі, што ён ужо гатовы «мачыць» не толькі «сіяністаў» ЗША і Ізраіль, але таксама «братоў па веры».

Агенцтва *CNN* паведамляе, што, па словах кіраўніцтва партыі БААС, «Ірак мае права прыняць захады супраць агрэсараў і іх памагатых у выпадку, калі агрэсія ў дачыненні Ірака адновіцца». У гэтай сувязі кіраўніцтва краіны гатовае «аказаць рашучы супраціў агрэсарам і ператварыць неба над Багдадам у пекла для нападаючых».

Лідэры БААС падкрэслілі таксама, што Саудаўскай Аравіі і Кувейту мусіць быць «сорамна» за саўдзел у забойстве трох грамадзянаў Ірака. Менавіта такую лічбу ахвяраў бамбардзіровак нарэшце выдалі афіцыйныя ўлады. ■

# Кастра падараваў Германіі выспу

Ірына СТАРЦАВА

Кубінскі лідэр Фідэль Кастра пацвердзіў факт, што падараваў кіраўніку Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі, генеральнаму сакратару СЕПГ Эрыку Хонэкеру выспу, што месціцца непадалёк ад Кубы. Пра гэта паведаміла агенцтва *Postfactum*.

Па словах Ф.Кастра, шырокі жэст быў зроблены ім у знак «непарушнага сяброўства». Пасля разбурэння Берлінскага муру і ліквідацыі ГДР выспа мусіла юрыдычна перайсці да Федэратыўнай Рэспублікі Германія паводле дамовы аб спадкаемнасці.

Уручэнне падарунка адбылося ў 1972 годзе, калі адзначалася 28-я гадавіна з дня смерці лідэра нямецкіх камуністаў Эрнста Тэльмана, закатаванага фашыстамі ў Бухенвальдзе. Фідэль Кастра загадаў назваць адну з Карыбскіх выспаў, што месціцца ў 3 мілях ад берага, імем Э.Тэльмана.

Факт урачыстага ўручэння «падарунка» быў запісаны на кінастужку, пра гэта пісалі газеты. Тым не менш, выспа Тэльмана засталася незаселенай. На ім няма ніводнага збудавання – толькі сляды знаходжання іспанскіх піратаў. Час ад часу кубінскія рыбакі возяць да выспы турыстаў – на кіламетры ўздоўж мора цягнуцца пляжы.

Аптымістычна настроеныя немцы ўжо мараць пра тое, як будуць цяпер ездзіць адпачываць і купацца на гэтых пляжы. Выспу Тэльмана ўжо называюць «Семнаццатай зямлёй Германіі».

Тым не менш, для таго, каб Германія насамрэч атрымала гэтую выспу, застаецца адна вельмі істотная праблема. Неабходна атрымаць ад Фідэля Кастра дароўную.

Нямецкія газеты адзначаюць, аднак, што і такое магчыма – маўляў, у кубінскага лідэра добрыя стасункі з германскім канцлерам Герхардам Шродэрам. ■

# Кіраўніцтва *Daewoo* пад судом

Міхась КАРПОВІЧ

Улады Паўднёвай Карэі прад'явілі абвінавачванне ў фінансавых махінацыях памерам у некалькі мільярдаў доляраў 34 кіраўнікам і бухгалтарам кампаніі *Daewoo Corp.*

Як паведамляе агенцтва Associated Press, пракуратура арыштавала шэсць былых кіраўнікоў карпарацыі па абвінавачванні ў пераводзе сродкаў праз прадстаўніцтва ў Лондане з 1997 па 2000 год. Усім чыноўнікам інкрымінуецца махлярства і парушэнне законаў аб пераводзе сродкаў за мяжу. Рашэнне аб арышце астатніх 27 асобаў будзе прымацца ў залежнасці ад сур'ёзнасці абвінавачванняў супраць кожнага з іх.

Тым часам, у панядзелак тысячы паўднёвакарэйскіх паліцыянтаў пры падтрымцы верталётаў з паветра ўварваліся на тэрыторыю галоўнага завода *Daewoo Motor Co*, каб перапыніць сядзячы страйк супрацоўнікаў завода. Гэта адбылося пасля дзвюх сур'ёзных сутычак паліцыі з удзельнікамі акцыяў пратэсту, у выніку якіх каля 10 чалавек атрымалі цялесныя пашкоджанні. Арыштаваныя некалькі прафсаюзных лідэраў. Але ў некалькіх месцах супрацоўнікі завода забарыкадаваліся і адмаўляюцца здавацца. ■

# Туркменбашы не хоча быць прэзідэнтам Пажыццёвым

Міхась КАРПОВІЧ

Прэзідэнт Туркменістана Сапармурат Ніязаў-Туркменбашы вырашыў «адмовіцца ад пажыццёвага тэрміну свайго прэзідэнцтва, якім узнагародзіў яго туркменскі народ». Пра гэта паведаміла агенцтва ИТАР-ТАСС.

Выступаючы на сумесным паседжанні Дзяржаўнага Савета, Народнага Савета, савета старэйшынаў і іншых органаў прадстаўніцтва, С.Ніязаў заявіў, што прэзідэнтам не мусіць быць чалавек, старэйшы за 70 гадоў. Дарэчы, пазаўчора прэзідэнту краіны споўніўся 61 год.

Аўдыторыя, перад якой С.Ніязаў абнародаваў сваё даволі нечаканае рашэнне, налічвала 3.000 чалавек. Яны сабраліся ў палацы «Рухіет» (у перакладзе з туркменскага – «Духоўнасць»). На паседжанні прысутнічалі чальцы Дзяржсавета, дэпутаты Народнага Савета, старэйшыны і прадстаўнікі нацыянальнага руху «Адраджэнне».

На аналагічным паседжанні ў 1999 годзе Сапармурат Ніязаў-Туркменбашы быў абвешчаны пажыццёвым прэзідэнтам краіны.

Крыху раней С.Ніязаў ужо выказваўся наконт тэрміну сваіх паўнамоцтваў. Падчас прыёму для замежных дыпламатаў ён заявіў, што праслужыць на сваёй пасадзе «да канца», але прэзідэнцкія выбары адбудуцца ў 2010 годзе. А ў 2008 годзе будзе ўведзеная новая сістэма выбараў прэзідэнта і рэгіянальных кіраўнікоў.

На сустрэчы з дыпламатычным корпусам С.Ніязаў паведаміў, што не мае «ні намеру, ні магчымасці абіраць сабе пераемніка з ліку сваякоў». Па ягоных словах, кандыдатаў на найвышэйшую пасаду мусіць быць не менш за два, і адзін чалавек зможа быць прэзідэнтам не больш за два пяцігадовыя тэрміны.

Днямі туркменскае тэлебачанне перадало прамову прэзідэнта, у якой Туркменбашы адзначыў, што народ даў яму неабмежаваныя паўнамоцтвы для правядзення любых зменаў і ўзмацнення дзяржаўнасці. Аднак, па словах С.Ніязава, ён не будзе «здаровы вечна», і таму хоча пакінуць пасаду кіраўніка дзяржавы, пакуль яшчэ жывы. «Я хачу пабачыць іншага мудрага чалавека, які будзе кіраваць краінай», – сказаў ён.

Месяц таму, як паведамляе агенцтва *BBC*, С.Ніязаў правёў чыстку ў шэрагах вышэйшых дзяржаўных чыноўнікаў, якія абвінавачваліся ў хабарніцтве і некампетэнтнасці. Адзін з іх пазбавіўся пасады за тое, што замест пракладкі дарогаў пабудаваў сабе шыкоўны асабняк.

У нядзелю ж Туркменбашы прадставіў публіцы кнігу «Рухнаме», якая, па ягоных словах, стане другой пасля Карана кнігай запаветаў для туркменскага народа.

«Рухнаме» дэкларуе галоўныя правілы для туркменаў – аддана служыць народу і дзяржаве. Таму, на думку прэзідэнта, яна мусіць стаць «настольнай кнігай у кожнай сям'і, калектыве, арганізацыі».

Дарэчы, яшчэ ў сярэдзіне 90-х гадоў Туркменбашы сталі параўноўваць на ягонай радзіме з прарокам.

Пры гэтым, ісламскія строгасці ніколі не карысталіся ў краіне вялікай папулярнасцю. Некалі ў Туркменістане была нават выпушчана гарэлка «Туркменбашы».




Агенцтва *BBC* нагадвае, што Сапармурат Ніязаў стаў на чале Туркменскай ССР яшчэ на світанку гарбачоўскай перабудовы ў 1985 годзе. У 1991-м, пасля распаду СССР, ён змяніў крэсла першага сакратара кампартыі Туркменіі на трон першага прэзідэнта незалежнага Туркменістана з насельніцтвам менш за 5 мільёнаў чалавек.

Выявы С.Ніязава-Туркменбашы ў самым розным выкананні пераследуюць кожнага, хто прыязджае ў гэтую краіну. Калі нават не казаць пра шматлікія помнікі, бюсты і барэльефы, партрэты прэзідэнта глядзяць на цябе з банкнотаў і слоікаў з ёгуртамі, з грамадскіх будынкаў і пяскоў пустыні.

Зрэшты, як адзначаюць назіральнікі, нядаўна кіраўнік краіны аддаў загад прыбраць свой партрэт-лагатып з задняга плана студыі тэлеканала «Эпоха Туркменбашы», які ён жа і заснаваў улетку 2000 года. Цяпер журналісты тэлекампаніі выходзяць у эфір, не маючы за сваёй спіной магутнай падтрымкі ніязаўскага профілю бронзавага колеру.

Замежных турыстаў уражвае тая галеча, у якой жыве туркменскі народ. Сярэдні ўзровень даходаў на асобу тут складае каля 20 доляраў – пры тым, што кошты вышэйшыя за еўрапейскія.

Аналітыкі *BBC* паведамляюць, што спадзяванні на пераўтварэнне Туркменістана ў другі Кувейт або Аб'яднаныя Арабскія Эміраты не апраўдаліся. Адкрыццё новых запасаў энерганосьбітаў у суседніх Азербайджане і Іране зніжае прыцягальнасць туркменскага газу для знешніх спажыўцоў. І гэта прымушае Туркменістан ускладаць менш, чым некалькі гадоў таму, спадзяванняў на заходніх інвестараў, а больш разлічваць на магчымасць выкарыстання газаправодаў, што праходзяць праз тэрыторыю Расіі. ■

# Рэпрэсіі супраць індыйскіх фільмаў

Ірына СТАРЦАВА

Тэлебачанне Малайзіі скараціла час трансляцыі індыйскіх фільмаў. Пра гэта паведаміла агенцтва *Reuters*.

Малайская газета *The New Straits Times* надрукавала ў аўторак матэрыял, з якога вынікае: пасля закліку на мінулым тыдні ісламскіх лідэраў Малайзіі спыніць паказ суперпапулярных індыйскіх фільмаў кіраўніцтва нацыянальнага тэлебачання вырашыла прыслухацца да пажадання. Але толькі часткова – час паказу стужак будзе скарочаны. Ісламісты Малайзіі абвінавачваюць індыйскія фільмы «ў выключнай амаральнасці».

Дзеянні малайскага тэлебачання ўжо былі ўхваленыя парламенцкім сакратаром міністэрства інфармацыі Зайнутдзінам Майдзінам. «Я шчаслівы зазначыць, што ўсе тэлекампаніі прынялі заклік да ведама і што яны прадпрынялі неабходныя захады», – паведаміў ён.

Паводле статыстыкі, мусульмане-малайцы складаюць прыкладна 60% насельніцтва краіны, этнічныя кітайцы – каля 30%, а індусы – каля 10%. ■

# Хуткасць на дарозе – 20 км/г

Міхась КАРПОВІЧ

Інспекцыя бяспекі дарожнага руху ўстанавіла абмежаванне хуткасці ў 20 кіламетраў у гадзіну ў эканамічнай сталіцы Экватарыяльнай Гвінеі горадзе Баце, дзе жыве 40.000 чалавек. Пра гэта паведамляе *Agence France Presse* са спасылкай на мясцовае радыё.

З пачатку года супрацоўнікі інспекцыі зарэгістравалі больш за 200 ДТЗ, палова з якіх прывяла да смерці людзей. У большасці выпадкаў дарожныя катастрофы адбываліся з-за перавышэння хуткасці або з-за кіравання аўтамабілем у нецвярозым стане.

*AFP* паведамляе таксама, што ў Баце жыве вялікая колькасць уладальнікаў аўтамабіляў, але няма ніводнай аўташколы. У выніку большасць кіроўцаў мусяць проста набываць правы. ■

# Пакрыўдзіў прэм'ера – прабачайся!

Ірына СТАРЦАВА

Кабінет міністраў Турцыі ў панядзелак запатрабаваў публічных прабачэнняў ад прэзідэнта Ахмета Сезера. У заяве кабінета адзначаецца, што ніхто, незалежна ад свайго рангу, не мае права праяўляць непавагу да прэм'ер-міністра. Бо такое стаўленне крыўдзіць увесь кабінет.

Як раней паведаміў прэм'ер-міністр Турцыі Бюлент Эджэвіт, прэзідэнт краіны дазволіў сабе зрабіць яму заўвагу ў манеры, што выходзіць за рамкі палітычнай этыкі або традыцыяў дзяржавы. ■

# Інваліды пабілі паліцыянтаў

Міхась КАРПОВІЧ

У Баку 20 паліцыянтаў пацярпелі ў выніку сутыкнення сілаў аховы правапарадку з актывістамі таварыства інвалідаў карабахскай вайны, якія перакрылі ў панядзелак у другой палове дня адну з цэнтральных магістраляў горада. Пра гэта паведаміла агенцтва «Інтерфакс», спасылаючыся на сумесную заяву прэс-службаў Генеральнай пракуратуры і МУС Азербайджана.

У паведамленні гаворыцца, што ў акцыі таварыства інвалідаў брала ўдзел каля 600 чалавек. Удзельнікі мітынгу прайгнаравалі неаднаразовыя заклікі супрацоўнікаў паліцыі разысціся. У выніку сутыкнення, якое адбылося пасля, пацярпелі 20 паліцыянтаў, 3 паліцэйскія машыны былі перакуленыя. Колькасць інвалідаў, што пацярпелі падчас акцыі, засталася невядомай.

Генеральная пракуратура і МУС Азербайджана мяркуюць, што акцыя мела намер «адцягнуць увагу ад злачынных дзеянняў кіраўніцтва Таварыства інвалідаў Карабахскай вайны». Як сцвярджаюць сілавыя структуры, у выніку праверак стала вядома, што кіраўнікі арганізацыі скралі прыкладна мільярд манатаў (эквівалент 220.000 доляраў), што прызначаліся для патрэбаў інвалідаў. ■

# Украина протестует против экспансии Московской патриархии

Агентство ПРИМА

15 прихожан Украинской православной церкви — Киевского патриархата (УПЦ-КП) обратились 19 февраля к председателю Государственного комитета Украины по делам религий Виктору Бондаренко с просьбой пресечь наступление Русской православной церкви на Крымский полуостров. По словам прихожан, Московская патриархия устанавливает в Крыму «поклонные» православные кресты, изготовленные в России. Прихожане УПЦ-КП видят в установлении крестов попытку Московской патриархии укрепить российскую национальную идею.

В частности, в октябре минувшего года дирекция Липецкого металлургического комбината (Россия), по согласованию с иерархами Русской православной церкви, изготовила крест стоимостью почти в 12 тысяч долларов. Крест был установлен в поселке Морское (Крым). Однако 25 октября прошлого года крымские татары разрушили его. Они требуют от председателя Госкомитета по религиям «запретить чужим попам и ставленнику Московской патриархии на Украине митрополиту Владимиру (Сабодану) возводить в Крыму кресты, олицетворяющие не православие, а российский шовинизм». ■

# Столкновение подстаканников

## Как поссорились Иван Иванович с Владимиром Петровичем

*Окончание, начало на стр.1*

О, Иван Иванович! Подлинно народный заступник, истинно, говорю я вам!

А какой чудный человечище Владимир Петрович Заметалин! Знаете ли вы его? Отдаете ли должное ему? Уважаете ли? Достойнейший, изумительнейший, великолепнейший сановный придворник! Опора и надежда государства, очи и уши Александра Григорьевича, мудрейший и умнейший из всех замполитов, когда-либо рождаемых под этими звездами! Взгляд его подобен рентгену. Даже сквозь непомерно чудовищную толщу земного шара, в далёкой капиталистической Америке, замечает Владимир Петрович врагов Отечества и разоблачает их гнусные происки. По одной газетной букве узнает он подлые письмена анафемских буржуазных политиканов и продажных капиталистических бумагомарак. А уж как ловко он находит врагов поблизости, так это просто народная баллада, эпос Калевала, доложу я вам! Изумлению подобно сие обстоятельство. Вот, казалось бы, все спокойно в дорогом Отечестве и только легкий ветерок едва шевелит волосы на затылке, как вдруг... чу! Владимир Петрович уже насторожился, уже напряглись, подобно локаторам, маленькие ушки его, уже маленькие глазки его пытаются что-то разглядеть в далеком далеке сквозь затемненные стекла очков. Скрипят мозги, трещат втулки. И точно! Указывает уже пальчиком своим на недоступную простым смертным угрозу, опасность, проистекающую из нерадения или преступной близорукости. «Вот он», буднично говорит Владимир Петрович тихим казенным голосом и прямо в окружении Александра Григорьевича обнаруживает злокачественный нарыв в виде вражеского лазутчика, засланного для покушения на незыблемые основы или даже на самое естество. Чудный дар, искренно говорю я вам, подлинный народный талант, граненый диамант воистину, а не человек!

И надо же было случиться такому противоестественному обстоятельству, такому ехидненскому, в ужас приводящему событию, что эти великие человеки — придворный сановник и сановный придворник — поссорились! Как можно, скажете вы, ссориться людям, объединенным великой государственной любовью лично к Александру Григорьевичу? Однако же именно от этой неугасимой любви и возгорелся сыр-бор. Иван Иванович и Владимир Петрович люто невзлюбили друг друга на почве доступа к телу величайшего славянского хоккеиста. Каждому из них хотелось быть рядом с его организмом, а позволялось лишь одному. Сегодня уже никто не скажет точно, в каких небесных чертогах принималась сия бесчеловечная инструкция. Но результат налицо. Сначала к великому телу допустили Ивана Ивановича, а бедного Владимира Петровича изгнали в лакейскую. А потом – все наоборот. Увы! Нынче именно сановный придворник приносит по утрам тапочки, расшитые бисером, к подножию власти, а не придворный сановник. И клюшку, очевидно, подает тоже он. Обидно, право слово, с точки зрения почитателей обаятельнейшего Ивана Ивановича, который вынужден нынче пресмыкаться во прахе. Заметим, с грустью и печалью на лице, что зоркий и неподкупный страж превзошел искусного и гибкого закулисца.

Однако же, вперед! За мной, читатель! Иван Иваныч не сдается! У каждого человека найдутся всякие слабые местечки, всякие нескромненькие делишки, всякие тайные страстишки, всякие гаденькие мыслишки, а уж у великих людей (таких, как наши герои) их великое множество. Очень много толстых зеленых навозных мух нашли ретивые недоброжелатели в чистейшей православно-коммунистической ауре у честнейшего Владимира Петровича. Если вы видели тот автомобиль, который делают в Жодино, так весь его кузов загрузи, и еще останется о чем поговорить. Он, дескать, и белорусофоб, и антисемит, и бездарный организатор, и предводитель шайки телевизионных идиотов, и вожак стаи коммунистических дебилов, и предатель общих интересов номенклатуры, и т.д. и т.п.

Добрейший Иван Иванович собрался атаковать неприятеля так, его учили когда-то в славных комсомольских чертогах: сначала наберись аргументов, обзаведись соучастниками, а потом бей из-за угла по башке коромыслом, не давай опомниться, пока не затопчешь проклятого супостата. А порядочнейший Владимир Петрович тоже, не будь дурак, приготовился, знал, с кем имеет дело, и не терял бдительности, благо он круглосуточно общается с Александром Григорьевичем и пребывает в боевой форме: каждый день надо что-то ценное изобретать в ответ на экстремальные властные понукания. Как только умнейший Иван Иванович начал давать интервью в «БДГ» и «Советской Б.», всесторонне раскрывая личность достойнейшего Владимира Петровича, тот молниеносно ответил ему в той же «Советской Б.» в духе хука наотмашь по сусалам, так что брызги полетели. Он назвал его предателем государственных интересов, подпольным координатором действий оппозиции, пишущим тексты заявлений для Госдепа США, и сделал много других интересных и остроумных замечаний на счет своего оппонента. Милейший Иван Иванович все-таки нашел в себе силы еще раз поднять свое коромысло и звездануть интеллигентнейшего Владимира Петровича по хавальнику еще одним интервью в «БГ» под названием «Все может закончиться трагически», в котором предупреждает общественность о том, что чиновники, любящие Ивана Ивановича, уже готовы сдать тело великого хоккеиста в музей и полюбить какое-нибудь другое тело. Если Ивана Ивановича не приблизят к подножию власти.

Кто же победит в этой битве титанов? Ставки принимаются как 2:1 в пользу Ивана Ивановича. Дело в том, что его обвинения имеют под собой реальную почву, а обвинения Владимира Петровича увидены, как всегда, сквозь темные очки. К тому же, говорят, что Владимир Петрович именно потому так отчаянно борется с сионизмом, что внешне очень похож на одного парикмахера, как и его духовный сын, некто Сева Лукомольский.

Ну, а нам, читатель, все едино: совой об пень или пнем об сову. Гнать надо в шею и того, и другого. Вместе с дорогим их сердцам организмом. ■

# Балканская пороховая бочка

**Александр КУРАНОВ, Прага**

**На специальном совещании в воскресенье высшее руководство Югославии во главе с президентом Воиславом Коштуницей постановило, что теракты в Косово, в результате которых только на минувшей неделе погибли 7 мирных сербских жителей и трое полицейских, «были спланированы албанскими экстремистами, чтобы спровоцировать» югославские силы безопасности и, таким образом, провалить весь план Белграда по мирному урегулированию кризиса в Прешевской долине и полностью дестабилизировать ситуацию во всем регионе.**



По сообщениям некоторых западных агентств, подразделения албанцев готовы в самое ближайшее время перейти к боевым действиям. Белград способен ответить тем же. Премьер Зоран Джинджич на днях заявил, что у его правительства теперь «развязаны руки» для решения ситуации на юге страны. У балканской бочки с порохом снова подпален фитиль.

Организаторами терактов однозначно называются представители действующей в этой зоне так называемой Освободительной армии Прешово, Медведжи и Буяноваца (ОАПМБ), насчитывающей, по разным данным, от 4 до 10 тысяч вооруженных албанцев.

Год назад, а точнее, 26 января прошлого года, ОАПМБ впервые дала о себе знать. Проживающие на юге Сербии албанцы воспользовались созданием здесь после бомбардировочной акции *NATO* пятикилометровой демилитаризованной зоны и развернули террористическую деятельность против местного сербского населения, а также против слабовооруженных полицейских отрядов сербов, поскольку военные части СРЮ не имеют права здесь появляться. Соглашаясь время от времени под давлением западных политиков на переговоры с сербами, албанцы не скрывают своей цели — присоединить территорию Прешевской долины к провинции Косово. Скрытую поддержку им оказывают бывшие руководители официально давно расформированной Освободительной армии Косово (ОАК). Из Косово потоками идет в Прешево вооружение, сейчас в распоряжении сепаратистов уже есть и танки, и артиллерия. Тем временем перешли к вооруженным действиям и албанцы, проживающие на территории Македонии, не исключено, что возьмутся за оружие и представители албанского меньшинства в Черногории.

Западные политики и военачальники оказались в связи с этим в весьма щекотливой ситуации. Остудить националистический пыл мятежников с помощью оружия представители *NATO* вряд ли когда-нибудь решатся: во-первых, обратить гнев против своих былых соратников - значит оконфузиться перед всем миром, а во-вторых, опять-таки своих военнослужащих жалко: албанцы церемониться не будут, им, в общем-то, все равно в кого стрелять ради достижения своих целей. Поэтому и возникли недавно слухи о том, что Запад на сей раз готов закрыть глаза на возможные военные действия Белграда против ОАПМБ.

Только вот что будут делать сербы с албанцами после возможного подавления их вооруженных отрядов? Примут ли те предлагаемую ныне сербским руководством расширенную автономию или с помощью собратьев продолжат сопротивление? К тому же политическая ситуация в Югославии сейчас весьма выгодна для косоваров: белградские политики буквально не знают, как и какой пожар на территории своей страны прежде всего тушить — одновременно с албанцами ее рвут на куски и лидеры Черногории, ведущие дело к отделению от Югославии.

Пока буферная зона между Сербией и Косово размером около четырехсот квадратных километров остается самым огнеопасным в Европе районом. Сербская полиция держит под условным присмотром не более 10-15% территории, да и то в основном в светлое время дня. Штаб вооруженных албанцев размещается в селении Великий Трновац, по другим данным — в Концульи, контролируют они также и несколько более крупных населенных пунктов. В целом в этой области проживает около 70-80 тысяч албанцев и около 20 тысяч сербов.

До административной реформы конца 40-х годов территория Прешевской долины относилась к Косово, но затем Белград решил «разбавить» густоту албанского населения в этой провинции, переместив в состав Сербии Прешевский район, а к Косово присоединив города с преимущественно сербским населением. Долина, из-за которой разгорается новый вооруженный конфликт, кроме прочего, имеет весьма важное стратегическое значение: через нее проходят авто- и железнодорожная магистрали, соединяющие Македонию и Грецию с Центральной и Западной Европой.

В минувший четверг представители сербского правительства представили в Брюсселе план по урегулированию ситуации на юге республики, окрещенный в честь его инициатора, вице-премьера Небойши Човича, «планом Човича». Этот план предусматривает, во-первых, сужение или полную отмену буферной зоны, а также ряд социально-экономических мер для лучшего обустройства совместной жизни сербов и албанцев в области, прилегающей к административной границе с Косово. В частности, представители обоих народов должны быть пропорционально представлены в местных органах самоуправления и полиции, регион получит серьезную поддержку в развитии сельского хозяйства и лесной промышленности, будут открыты новые школы и учреждения культуры, сербский и албанский языки будут использоваться на равноправных началах. ■

*Печатается в сокращении*

**ng.ru**

ТЭНДЭНЦЫІ

# Аграпрамысловы комплекс недаатрымлівае ўгнаенняў

**Вікторыя МЯЖЫЕВА**

Сітуацыя з пастаўкамі сельскай гаспадарцы краіны мінеральных угнаенняў да веснавой сяўбы складаная, і, калі не прыняць тэрміновых захадаў, яна можа выйсці з-пад кантролю, папярэджваюць у канцэрне «Белнафтахім».

На пачатак лютага сельскія прадпрыемствы запазычылі канцэрну за атрыманыя ўгнаенні 3.832,3 мільёна рублёў. Гэта ў сваю чаргу прывяло да ўтварэння ў прадпрыемстваў «Белнафтахіма» запазычанасці за расійскую сыравіну і энерганосьбіты. У такіх умовах, адзначаюць у канцэрне, становіцца праблематычным выкананне задання ўрада, згодна з якім «Белнафтахім», мінсельгасхарч і аблвыканкамы павінны да 15 чэрвеня 2001 года рэалізаваць сялу 273 тысячы тон азотных, 95 тысяч тон фосфарных і 450 тысяч тон калійных угнаенняў. Па стане на 1 лютага сельскім гаспадаркам да веснавой сяўбы адгружана 50,29 тысячы тон калійных, 1,60 тысячы тон азотных і 7,31 тысячы тон фосфарных угнаенняў, што складае адпаведна 26 і па 17% ад графіку. ■

**БелаПАН**

# Афіцыйнае і прыхаванае беспрацоўе

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

На пачатак гэтага года ўзровень беспрацоўя ў Мінску склаў 1,3% эканамічна актыўнага насельніцтва, што на 0,1% больш, чым у пачатку мінулага года. Пра гэта паведаміў 20 лютага на прэс-канферэнцыі першы намеснік дырэктара Мінскага гарадскога цэнтра занятасці насельніцтва Чэслаў Роўба.

Колькасць беспрацоўных павялічылася за год з 12.879 да 14.021 чалавека, ці на 8,9%. Усяго ж на працягу года былі зарэгістраваны 20.489 чалавек (на 14,5% больш, чым у 1999 годзе). Па лініі цэнтра занятасці быў працаўладкаваны 11.931 беспрацоўны (плюс 16,3% да ўзроўню 1999 года). Паводле слоў Роўбы, нягледзячы на рост, беспрацоўе ў сталіцы застаецца самым нізкім у Беларусі (сярэдні паказчык па краіне — 2,1%), пры гэтым яго працягласць знізілася з 6,7 да 6,1 месяца.

У той жа час, як паведаміла на прэс-канферэнцыі намеснік дырэктара цэнтра Софія Свярдлова, узровень прыхаванага беспрацоўя ў сталіцы складае ад 8 да 10%.

Сярод афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных 60,6% — моладзь ва ўзросце да 29 гадоў, кожны сёмы беспрацоўны — непаўналетні. Сярodні ўзрост беспрацоўнага знізіўся за год з 29,1 да 29 гадоў. 59,3% беспрацоўных - жанчыны. Працягвае зніжацца кваліфікацыйна-адукацыйны ўзровень беспрацоўных: за мінулы год амаль на 30% вырасла колькасць асоб, не маючых закончанай сярэдняй адукацыі.

Як адзначыў Чэслаў Роўба, попыт наймальнікаў арыентаваны пераважна на прадстаўнікоў рабочых прафесій. На 1 студзеня доля вакансій для рабочых склала 87,5%, у той час як для служачых — усяго 12,5%. Вялікі попыт на слесараў, электраслесараў, электрыкаў-электраманцёраў, токараў, зваршчыкаў, швачак, вадзіцеляў. Значнай застаецца патрэба наймальнікаў у нізкакваліфікаванай рабочай сіле (16,1% вакансій). У той жа час мала запатрабаваны эканамісты, юрысты, бухгалтары, сакратары-рэферэнты.

У 2000 годзе на выкананне праграмы занятасці было выдаткавана 1 мільярд 535 мільёнаў 197 тысяч рублёў, з якіх 410 мільёнаў патрачаны на дапамогі і іншыя выплаты. Сярэдні памер дапамогі па беспрацоўі ў снежні склаў 5.197 рублёў.

Па прызнанні Роўбы, службе занятасці не ўдалося «ў поўнай меры забяспечыць выкананне задання па аказанні фінансавай дапамогі для стварэння працоўных месцаў». Акрамя таго, «застаецца актуальнай праблема маладзёжнага беспрацоўя». Адна з асноўных прычын — «існуючая нарматыўна-прававая база, якая не дазваляе зацікавіць наймальнікаў у арганізацыі працоўных месцаў для стажыроўкі маладых спецыялістаў». Яшчэ адна праблема — «нізкая якасць вакансій, якія прадастаўляюцца службе занятасці наймальнікамі, што выклікае цяжкасці ў іх запаўненні».

Сёлета на выкананне праграмы занятасці прадугледжана 3 мільярды 429 мільёнаў 356 тысяч рублёў (у 2,23 раза больш у параўнанні з мінулым годам у абсалютных лічбах і на 7,7% больш з улікам інфляцыі). Асноўныя кірункі праграмы: садзейнічанне стварэнню працоўных месцаў і развіццю прадпрымальніцтва шляхам аказання дапамогі са сродкаў дзяржаўнага фонду садзейнічання занятасці, забеспячэнне занятасці грамадзян, маючых патрэбу ў сацыяльнай абароне, інвалідаў, жанчын, непаўналетніх беспрацоўных. На думку Роўбы, выкананне гэтых мерапрыемстваў дазволіць утрымаць беспрацоўе на цяперашнім узроўні. ■

**БелаПАН**

# Нерегистрация

**Юрась ХМЕЛЬНИЦКИЙ**

Накануне президентских выборов власти проводят зачистку информационного поля. Сразу в двух регионах Беларуси отказано в регистрации независимых газет. В седьмой раз отказано в регистрации газеты «Голас Ліды» (учредитель – руководитель местной организации БНФ «Адраджэньне» Станислав Судник). В то же время без проблем местные власти дали «добро» на создание новой общественно-политической газеты «Лидский экспресс», которая будет иметь статус районной газеты.

Пинский горисполком упорно отказывается рассмотреть документы редакции газеты «Вечерний Пинск» и дать согласие на размещение данного СМИ на подведомственной ему территории. При этом руководитель горисполкома в беседе с учредителем газеты заявил, что документы на создание газеты не будут рассматриваться вплоть до сентября 2001 года.

Без объяснения причин ясно, что местные власти получили соответствующие указания из Центра и начали подготовку к президентским выборам. По всей видимости, создание новых независимых газет в этот период не входит в план предвыборных мероприятий единого кандидата от нынешней власти.

Это свидетельствует о том, что чиновники фактически перестали подчиняться законам, их нисколько не смущает нарушение положений Конституции 1996 года. Единственным законом для чиновников, похоже, стали указания «сверху». Именно за их выполнение (точнее – невыполнение) они отвечают своей должностью. Это – принцип авторитарной власти: делай, что прикажут, и не бойся за последствия.

Но господа-чиновники, усердствуя перед вышестоящим начальством, вы забываете о простых смертных, которые тоже хотят хорошо жить, кушать, отдыхать и хотят получать объективную информацию о положении дел в стране и мире. Однако в угоду нынешней власти вы лишаете миллионы граждан их неотъемлемых прав. ■

ЭКСПРЭС

## Прогнозы, долги, расчеты

Андрей КАРПОВИЧ

**Проект бюджета Союзного государства принят в первом чтении**

Итогом прошедшей 16 февраля в Минске шестнадцатой сессии Парламентского собрания Союза Беларуси и России стало принятие в первом чтении проекта бюджета Союзного государства на 2001 год. Его доходы формируются за счет согласованных отчислений государств-участников в сумме 2.346.381,8 тысячи российских рублей. При этом доля Российской Федерации — 1.526.381,8 тысячи российских рублей, а нашей республики — 820.000,0 тысяч российских рублей.

**Руководство Литвы заинтересовано в развитии всесторонних отношений с Беларусью**

Руководство Литвы выступает за развитие всесторонних отношений с Беларусью и делает все возможное, чтобы облегчить общение представителей двух соседних держав. Об этом заявил 14 февраля в ходе встречи с журналистами Чрезвычайный и Полномочный Посол Литовской Республики в нашей стране Йонас Паслаускас. Одним из главных шагов в этом направлении, по словам дипломата, стало упрощение процедуры получения виз для въезда в Литву, а также снижение их стоимости с 20 до 10 долларов США. А уже в скором времени предполагается ввести порядок возвращения иностранным туристам суммы уплаченного в Литве НДС.

**Потребность Белоруссии в инвестициях составляет 1-2 млрд. долларов в год**

Общая потребность Белоруссии в иностранных инвестициях составляет 1-2 млрд. долларов США в год. Об этом сообщил премьер-министр Белоруссии Владимир Ермошин, выступая на расширенном совещании Совета министров страны.

Просроченная задолженность по иностранным кредитам, сообщил Владимир Ермошин, на 1 января 2001 года составила 43,1 млн. долларов. По его словам, удалось достигнуть соглашения о реструктуризации задолженности по кредитам Германии и Австрии. ■

# На раздарожжы




Франц ЗАЙЧЫНЕЦ

Усе начальнікі сцвярджаюць, што пад іхным мудрым кіраўніцтвам мы квітнеем. Скора да таго расквітнеем, што самі папросімся ў Расію і будзьма жыць там гэтак жа добра, як Бранская, Смаленская, Пскоўская і Наўгародская вобласці.

Можа яно так і трэба. Аднаму чалавеку цяжка зразумець, што добра, што не, разам яшчэ цяжэй. Заедзеш куды на ўсход ці поўдзень, здаецца — у нас лепей. А мо толькі здаецца.

Карацей, стаў я па кніжках шукаць, хто як жыве. У каго перабудова атрымалася, у нас ці нашых суседзяў. Але ж каб нешта параўноўваць, трэба ўсё адной меркай вымяраць. Найлепшая ж мерка, так даўнейшыя людзі казалі, сам чалавек. Бо якая карысць ад вашых рэформаў, калі людзям горай жывецца.

Знайшоў. У штогадовых справаздачах для ААН краінамі выкарыстоўваецца **індэкс развіцця чалавечага патэнцыялу**. Наколькі ён дакладны, меркаваць не бяруся, ці ўсеахопны і адпаведны назве – не ў газеце спрачацца. Галоўнае, што ўсім краінам разлік аднолькавы і **ўлічвае ды абагульняе вельмі істотныя рэчы: працягласць жыцця, узровень пісьменнасці і рост вытворчасці.**

Кіраўніцтва наша любіць маніпуляваць найноўшымі лічбамі, хаця ж варта думаць на самым высокім узроўні не толькі пра апошні квартальны паказчык, сапсаваны ўласнаручна абранымі і прызначанымі «галавацяпамі», але і пра доўгатэрміновыя тэндэнцыі. Гэта да таго, што параўноўваць будзьма індэксы 1990 і 1998 гадоў, яны ёсць ужо па ўсіх краінах-суседках.

Што атрымліваецца. За часы СССР найбольшы мела індэкс Расія, найменшы — Польшча. Найменей страцілі ў чалавечым развіцці Літва і Беларусь, найболей – Украіна і Расія. Вырас паказчык толькі ў Польшчы.

Вось і паразважаем. З каго найлепей прыклад браць. Калі абіраць стратэгію асцярожнаю, то глядзець трэба на таго, хто найменей страціў. Калі ж шукаць сапраўднага поспеху, то арыентавацца трэба на таго, хто найболей прыдбаў.

І атрымліваецца, што ісці мусім па шляху брацкага славянскага народа, з якім мы стагоддзямі жылі ў адной вялікай і слаўнай дзяржаве, маем супольныя этнічныя і культурныя карані, падобныя мовы і ментальнасць. Не апошнім аргументам падабенства з'яўляецца і каталіцызм, што нясе ў сабе стваральныя агульначалавечыя каштоўнасці і процістаіць разбуральным дзеля маралі тэндэнцыям. Нават у народных прымаўках простых людзей наша еднасць знайшла яскравае адлюстраванне: «Курыца не птушка, Польшча не заграніца».

Літоўцы, хоць і не славяне, што для некаторых вельмі зрабілася чамусьці важным апошнім часам, але ж таксама жылі з намі ў адной дзяржаве і пасля палякаў маюць па тым індэксе, калі ён вам спадабаўся, зусім нядрэнныя вынікі. Дарэчы, у нашай з імі агульнай дзяржаве дзейнічаў нядрэнны закон — «Статут Вялікага Княства Літоўскага».

Дык ці не варта вучыцца ў тых і ісці следам за тымі, хто меней страчвае і больш набывае, а не кідацца братацца дзеля нейкай міфічнай расавай еднасці. А хто не дае таму веры, няхай купіць білеты да Невеля, Рослаўля, Коўна і Беластока. Праедзе, мо што надумае. ■

# И кто его знает, чего он считает...

## Белорусский предприниматель в глазах народа

Отдел экономики

**Развитие бизнеса в стране невозможно без его поддержки всем населением, а потому хорошо бы, занимаясь этой поддержкой, точно представлять себе, как воспринимается населением белорусский предприниматель.**

Кто он: новый белорус из анекдота или уважаемый член общества? Именно для этого на протяжении всей своей работы в нашей стране Международная финансовая корпорация проводила опросы жителей республики об их отношении к экономическим реформам, малой приватизации и зарождающемуся частному бизнесу.

Для того чтобы узнать, как люди воспринимают сегодняшнюю ситуацию в экономике страны и как относятся к новоявленным бизнесменам, лаборатория аксиометрических исследований «Новак» с 27 ноября по 6 декабря 2000 года провела опрос. В нем участвовали 1.101 респондент.


Фота Ул. ШЛАПАКА

### Общие представления населения о рыночной экономике

Как показал опрос, значительную часть населения интересуют вопросы экономического развития республики.

В большей степени эти вопросы интересуют население трудоспособного возраста – от 25 до 65 лет. Обращает на себя внимание, что меньше других интересуются вопросами экономического развития не только пенсионеры, но молодежь в возрасте до 24 лет.

Судя по данным опроса, 66% населения Беларуси положительно относятся к существованию частного сектора экономики. Однако почти каждому пятому белорусу вообще безразлично, есть ли в республике частная собственность, а 8% относятся к ее существованию отрицательно.

Более 60% респондентов предпочли бы для Беларуси рыночную экономику. Однако, опрос продемонстрировал, что население не совсем четко представляет, что, собственно, подразумевается под этим понятием. Так, почти половина тех, кто выступает за рыночную экономику, хотели бы сохранить значительное государственное регулирование, не сознавая, что оно не позволяет в полной мере проявиться рыночным механизмам. При том, что за рыночную экономику высказываются более 60% населения, только пятая часть респондентов считает, что цены должны быть свободными, т.е. формироваться в зависимости от спроса и предложения.

Впрочем, респонденты и сами достаточно критично оценивают свои представления об экономике страны. Только десятая часть опрошенных считает свои познания полными. Еще 36% отметили, что имеют о вопросе достаточно четкое представление. И практически половина населения считает свои представления об отечественной экономике смутными.

Данные опроса подтверждают низкую вовлеченность белорусского населения в сферу частного бизнеса. Всего 11% опрошенных имеют опыт предпринимательской деятельности, и почти для половины из них этот опыт оказался негативным, поскольку в дальнейшем изъявили желание работать в этой сфере только 7% респондентов. И тем не менее, (как ни странно!) предпринимательство в Беларуси имеет большой потенциал, поскольку среди тех, кто не пробовал себя в бизнесе, хотели бы им заниматься около трети.

При исследовании мотивов, которые побуждают население идти в предпринимательство, становится очевидно, что основной из них — надежда обрести материальное благополучие. Почти пятая часть респондентов считает предпринимательство возможным способом самореализации. И лишь каждый десятый назвал предпринимательство «любимым делом».

Особый интерес представляют ответы на вопрос «Если вы не хотели бы заняться предпринимательской деятельностью, то какова основная причина этого?» (можно было выбрать три причины). Вот ответы:

Законодательство в РБ препятствует эффективному предпринимательству — 13%

Экономические условия в РБ препятствуют эффективному предпринимательству — 12%

Государственная, в том числе налоговая политика в РБ в отношении предпринимательства не способствует его развитию — 23%

Общество настроено недоброжелательно по отношению к предпринимательству — 9%

Бизнес в РБ связан с криминалом — 12%

Нет начального капитала для организации своего дела — 34%

Предпринимательская деятельность не подходит по складу характера — 46%

### Отношение населения к предпринимателям

Результаты опроса опровергают расхожее мнение, что население республики резко негативно относится к предпринимателям. Респонденты отмечают, что предпринимательство становится ощутимой составляющей повседневной жизни их населенных пунктов и готовы признать, что люди, работающие в сфере частного бизнеса, не только обеспечивают самих себя, но и решают социально значимые задачи, а также дают возможность получить работу другим.

Эмоциональное восприятие предпринимательства носит четко выраженную возрастную специфику. Так, наибольший вклад в негативную оценку сделан респондентами старше 55 лет, а наиболее позитивно характеризуют предпринимателей респонденты 18–45 лет.

По мнению большинства респондентов, белорусский частный бизнес существует в неблагоприятной среде. Так, из 74% опрошенных, отметивших, что предпринимательство в Беларуси имеет будущее, две трети считают обязательным условием для этого изменение условий для ведения бизнеса в лучшую сторону.

Из предложенного перечня возможных препятствий для развития предпринимательства в Беларуси респонденты выбрали нестабильное законодательство (50%), неблагоприятную экономическую обстановку (41%) и неблагоприятную государственную политику по отношению к частному бизнесу (39%). Эти данные согласуются и с данными опроса самих предпринимателей, которые называют именно эти причины в числе главных. Кроме того, примерно каждый пятый из опрошенных согласен с тем, что негативное влияние на развитие предпринимательства оказывают также низкий уровень экономических знаний у предпринимателей, негативное отношение к предпринимательству со стороны населения и недостаток опыта работы в рыночных условиях.

На вопрос «Как Вы считаете, можно ли в нашей стране работать в частном бизнесе и при этом не нарушать законов?» ответы распределились следующим образом:

«Нет» сказало 55% опрошенных, «Да» — 19%. У 26% респондентов нет ответа на этот вопрос.

Говоря о препятствиях для развития предпринимательства в Беларуси нельзя обойти вниманием и то, как распределились ответы на вопрос «Как, по-вашему, какое отношение к предпринимателям наиболее типично для государственных чиновников в нашей стране? (респондентам предлагалось закончить предложение: Чиновники относятся к предпринимателям...)»

Итак:

...как к объекту управления — 13%

...как к деловым партнерам — 7%

...как к источнику личного обогащения — 48%

Нет ответа — 30%

Комментарии, как говорится, излишни.

И тем не менее, половина респондентов, отвечая на вопрос, хотят ли они работать наемным работником в частном предприятии, отмечает, что хотели бы, а значит, этот сектор экономики является привлекательным для трудоспособного населения Беларуси.

### Региональная специфика общественного мнения

Как и следовало ожидать, более четкое представление о рыночной экономике и последовательность в предпочтениях проявило население Минска. Доля респондентов, предпочитающих рыночную экономику плановой, здесь выше, чем в других регионах республики, на 5-15%. Минчане более других итересуются экономической ситуацией в стране и более высоко оценивают свою осведомленность.

Интересно, что выше всего доля населения, предпочитающего рыночную экономику с незначительным государственным регулированием, в Гомельской области, которая традиционно считается одной из самых консервативных в стране.

Наиболее консервативно показали себя жители Минской и Витебской областей. Так, 40% представителей Минской области мало или вообще не интересуются вопросами экономического развития Беларуси (это на 10 и более процентов больше, чем в других регионах), в Витебской области больше всего сторонников плановой экономики, здесь также больше, чем в других регионах, тех, кто высказался за жесткое регулирование цен на все продукты, товары и услуги.

В то же время, в Витебской области респонденты высоко оценивают уровень своих знаний об экономической ситуации в стране.

Опрос выявил интересный факт, касающийся предпринимательской активности населения различных регионов. Несмотря на статистические данные о том, что абсолютное большинство предпринимателей зарегистрировано в Минске, наиболее высока доля респондентов, имеющих личный предпринимательский опыт, в Брестской области. Там себя относят к людям, занимающимся предпринимательской деятельностью, почти 30% опрошенных против 10% в Минске и 6–8% в других регионах. Но в то же время это единственный регион, где доля предпринимателей, разочаровавшихся в предпринимательской деятельности, составляет больше половины.

Результаты опроса опровергают устоявшееся мнение о том, что население республики резко негативно относится к предпринимателям. Полученные данные позволяют говорить о формировании позитивного восприятия предпринимателей белорусским обществом. Респонденты отмечают, что предприниматели вносят свой вклад в развитие населенных пунктов (78%), обеспечивают себя и свои семьи (86%) и дают работу другим (67%). ■

ВІТРАЖ

## Моладзь Еўропы стала піць болей

Сусветная арганізацыя аховы здароўя выказвае трывогу ўзрослым ужываннем моладдзю алкагольных напояў, асабліва ў краінах Еўропы. Маладых людзей зрабілі сваёй галоўнай мішэнню службы маркетынгу прамысловасці, якая выпускае спіртовыя напоі. Рэклама і рост ужывання віна і водкі, на думку экспертаў Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, – узаемазлучаныя з'явы. Згодна з статыстычнымі дадзенымі, у еўрапейскіх краінах кожная чацвёртая смерць людзей ва ўзросце ад 15 да 29 гадоў звязаная з ужываннем алкаголю. Па дадзеных арганізацыі, толькі ў 1999 годзе на еўрапейскім кантыненце з прычыны значнага ўжывання моцных спіртовых напіткаў памерлі 55 тысяч юнакоў і дзяўчат. ■

## Клінтана запрашаюць сыграць на саксафоне

Прэстыжны фестываль песні ў італьянскім горадзе Сан-Рэмо можа быць аздоблены выступленнем былога прэзідэнта ЗША Біла Клінтана. Арганізатары фестывалю праводзяць перамовы з прадстаўнікамі Клінтана, спадзеючыся атрымаць згоду амерыканскага экс-прэзідэнта на канцэртнае выступленне на саксафоне. Беламу гаспадару Белага дома, па неафіцыйных звестках, прапануюць за гэтае выступленне ганарар у 500 тысяч долараў. Але афіцыйныя асобы фестывалю абвяргаюць такую высокую суму. Вядомае свята песні адбудзецца з 26 лютага па 3 сакавіка, аднак на гэты час у Клінтана намечаныя розныя мерапрыемствы, і ягоны ўдзел у фестывалі пакуль што застаецца пад сумнівам. Таксама арганізатары фестывалю жадаюць запрасіць Сафі Ларэн.



Сярод знакамітых гасцей фестывалю будуць Сільвестр Сталонэ і Шэрон Стоун.

## Пахудзенне на 60 кг пасля родаў

Жыхарка германскага Брэмена, якая важыла 374 кілаграмы, нарадзіла дзіця і пасля родаў пачала худзець. Роды былі надта драматычныя. Жанчыне зрабілі кесарава сячэнне, а дзіця нарадзілася на 6 тыдняў раней вызначанага тэрміну. Дзіця важыла 1 кілаграм 720 грамаў. У клініку цяжарную дастаўлялі верталётам, потым грузавіком, а ў палату яна патрапіла з дапамогай каманды пажарных. На працягу паўтара месяца пасля родаў маладая маці скінула 60 кілаграмаў вагі і працягвае худзець. Дзіця пачуваецца добра.

Дактары клінікі пакуль што не могуць зразумець, якім чынам муж гэтай незвычайна салiднай жанчыны здолеў пераадолець перашкоды, звязаныя з яе мажнасцю, і зачаць дзіця.

Да апошняга апошняга выдання Кнігі рэкордаў Гінеса, рэкорд масы цела ў жанчыны належыць амерыканцы Разалі Брэдфард, якая важыла 544 кілаграмы. ■

СПОРТ

## Зборная клубаў прайграе Узбекістану

**Аляксей ЗУБРОЎСКІ**

Зборная клубаў Беларусі пад кіраўніцтвам галоўнага трэнера Эдуарда Малафеева і ў адсутнасць мацнейшых легіянераў, што выступаюць за замежныя клубы, прайграла першы матч на міжнародным турніры ў балгарскім горадзе Албена. Лік гульні 0:2. Абодва мячы былі прапушчаныя ў другім тайме, першы — на другой хвіліне з пенальці, а другі — на 45-ай хвіліне матча.

Канешне ж, чытачоў зацікавіць, якіх жа футбалістаў выставіў на матч з узбекамі Малафееў.

Склад зборнай Беларусі: Шанталосаў, Доўнар (Ермаковіч,78), Шэлег, Сяднёў, Штанюк, Матвейчык (Крыванос,46), Ліхтаровіч (Капаў,65), Нікіфарэнка (Савельеў,55), Мілеўскі, Стрыпейкіс (Гормаш,46), Васілюк.

Здавалася б, і не самы слабы склад, але...

Учора зборная Беларусі правяла свой другі паядынак — з румынскім «Фарулам» і зноў прайграла — 3:4. ■

## У Ротэрдаме ёсць шанц на сенсацыю

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Шчыра кажучы, беларусам **вельмі** не пашанцавала з жараб'ёўкай на прэстыжным тэнісным турніры з серыі АТП у галандскім горадзе Ротэрдаме, які пачаўся на гэтым тыдні. Беларус Макс Мірны, даволі добра згуляўшы на мінулым тыдні ў Марселі, адразу трапіў на першую ракетку турніру Марата Сафіна, што не радуе. А нават калі Максім і здолее стварыць, як тыдзень таму, сенсацыю і перамагчы Сафіна (сем дзён назад ён перамог Магнуса Нормана), то далей яго чакае пераможца пары Сэдрык П'ялін з Францыі і Андрэас Вінсыгуера з Швецыі, якія хацця і слабей за Сафіна, але далёка не хлопчыкі для біцця.

Вельмі моцны, і галоўнае, нязручны сапернік дастаўся Уладзіміру Валчкову. Гэта чэх Багдан Уліpax, гульні з якім у Валчкова традыцыйна не ладзяцца. У выпадку поспеху «Уладзіятара» чакае пераможца пары Томас Ёхансан (Швецыя) — Дамінік Хрбаты (Славакія).

Тым часам беларуска Вольга Барабаншчыкава стартуе на дарагім у грашовым плане тэнісным турніры ў сталіцы Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў Дубаі. У адрозненне ад мужчын, Барабаншчыкавай вельмі пашанцавала з жэрбіем, адзінае, каб яна скарыстала гэтае везенне, а не, як звычайна, растранжырыла яго. У першым крузе Вольга згуляе з Генрыетай Наг'евай з Славакіі, а ў выпадку перамогі яе чакае нехта з двух яшчэ пакуль не вызначаных кваліфікантаў (якія прабіваюцца на турнір праз дадатковыя гульні). Астатнія беларускі якраз і паспрабуюць трапіць у асноўную сетку праз кваліфікацыю. ■

# Замкнутый круг

**В понедельник, в прямом эфире БТ вышел очередной выпуск программы «Стадион», в которой ее автор и ведущий, спортивный журналист Алексей Доваль, подвел итоги выступления белорусских биатлонистов на Чемпионате мира в Словении. Передача, на мой взгляд, удалась.**



Алексей Доваль (в центре) на съемках

Но мало кто знает, что она была ведь на грани срыва. Обошлось...

В чем причина конфликта, готового было выплеснуться за экран? Ведь напомнить еще раз об удачном выступлении наших спортсменов, просто приятно, почему бы и нет? Если к тому же ведущий сам побывал в гуще всех событий в словенской Поклюке, снял видеосюжеты, что, безусловно, важно для журналиста. Интервью, которое мы вам предлагаем, надеюсь, прояснит ситуацию.

– Тему, столь приятную для любителей спорта, нужно было закончить на высокой ноте, к тому соревнования завершились неделю назад, а периодичность выхода передачи в эфир не позволяла в прошлый раз пригласить в студию того же Александра Попова, главного тренера сборной, кого-то из биатлонистов.

Но почему-то главный редактор творческого объединения спортивных программ Владимир Шпитальников буквально сказал мне, что передача эта не нужна, и было изложено это в форме запрета. Но я все равно – если не снимут в последний момент – предложу зрителям биатлон. (Разговор с Алексеем происходил перед эфиром.)

***– Может быть руководство БТ посчитало, что достаточно той единственной телетрансляции, которую мы видели в прошлое воскресенье? И как, кстати, удалось показать эту мужскую эстафету?***

– Вообще, инициатором организаций всех (подчеркиваю!) трансляций была республиканская федерация биатлона, которая и предложила мне еще в декабре отправиться в Поклюку на чемпионат. Она готова была оказать содействие в связи с международной федерацией, которая, в свою очередь, выводила бы на всеевропейский вещательный союз, и тот, учитывая наше экономическое положение, практически бесплатно, предоставил бы права на трансляции. Обо сем этом было доложено мною Шпитальникову, об этом ему сообщил и генеральный секретарь федерации Александр Беляев, но все осталось на уровне предварительных разговоров. (Федерация приобрела уже авиабилеты для меня и гарантировала оплату за проживание.)

Недели за две до начала чемпионата пошло какое-то движение сверху и Егор Рыбаков, первый зампредседателя Белтелерадиокомпании поручил тому же Шпитальникову заняться этим вопросом вплотную. Тот доложил, что мы можем купить права по другой линии, заплатив (!) за полный пакет 6 тысяч швейцарских франков, но посылать комментатора нецелесообразно, так как его рабочее место в день стоит якобы тысячу долларов; к тому же рассчитывать нашим биатлонистам на успех вряд ли придется, только разве лишь надеяться на что-то в эстафете. А поэтому обойдемся лишь ею, прокомментируем гонку «под картинку» из Минска, а сюжеты будем, как обычно, «сдирать» с Евроспорта. Я лично пытался убедить Рыбакова, что, следуя такой логике, можно с любого соревнования вне пределов республики «писать» все также с зарубежных телеканалов и стоит ли тогда ехать, например, тому же Владимиру Новицкому на хоккей в Норвегию или Борису Герстену на зимнюю Универсиаду в Польшу? Экономить так уже во всем! Но для Рыбакова это показалось неубедительным. К тому же моим начальникам показалось, что в будущем за те расходы, которые федерация несет за меня, придется рассчитываться с ней эфирным рекламным временем, хотя речи об этом на всех этапах переговоров не было вообще!

Я вынужден был взять отпуск за свой счет, поехал на чемпионат и предложил еще один вариант: готов был за личные деньги оперативно передавать на телевидение и радио отчеты обо всех гонках. Причем, принять участие в этих «теле-радио мостах» дали согласие тот же Попов, наши спортсмены. Но шеф редакции запретил принимать мои материалы, хотя со всеми коллегами у меня была договоренность. Одним словом, Шпитальников попросту наплевал на интересы болельщиков, любителей биатлона.

***– Странная позиция руководства. Так сразу и нельзя понять, почему вдруг все произошло. Алексей, позволь задать вопрос несколько другого характера. Ты уже работаешь на БТ седьмой год, являешься автором и ведущим популярных циклов «Третий тайм», «Супергол». Куда подевались эти передачи?***

– Когда произошла смена руководства, все были поставлены в известность, что нас ожидают перемены. Например, в спортивной редакции все циклы были заменены на два новых. Лично меня вызвал Рыбаков и сообщил об этом, предложив вместо «Третьего тайма» разработать концепцию еще недельной программы «Стадион» и ежедневной «Спорт-курьер». Все это написать, надлежаще оформить и передать ему. (Я так и сделал.) И в самом конце беседы вдруг неожиданно спросил: «Кстати, а ты какую делал передачу до этого?» Комментарии, как говорится, излишни...

Вы помните, сколько было шума, что у нас на телевидении проходит творческий конкурс, по итогам которого будет создано принципиально новое вещание и т.д.?

Так вот никакого конкурса не было. Все было определено заранее. Мой проект никто не рассматривал. И о его судьбе никто не говорил. И то, что я все же выпускаю «Стадион», можно считать чистой случайностью.

Программу ведь поручено было делать Алексею Супоневу, но после просмотра «пилотного» материала его забраковали и в авральном порядке предложили делать мне. К слову, интересная деталь. За разработку «Стадиона» и «Спорт-курьера» Шпитальников был поощрен премией президента, а мне в то же самое время «влепили» выговор. Пикантная ситуация...

А «Третий тайм» вновь появиться на экранах с марта месяца, но разговор на эту тему со мной никто не ведет, и, похоже, он станет авторской программой того же Новицкого, который после перехода из АТН к нам пока находится, по большому счету, не у дел.

***– Как ты думаешь, почему такая немилость к тебе.***

– Пока меня работы не лишают, но явно создают условия, при которых делать ее становится все сложнее. Я уже не говорю о том, что о поощрениях за свой труд и вознаграждении следует совсем забыть.

Что поездки на Олимпиаду и другие крупные международные соревнования – удел избранных, даже если они не сделали до этого ни одного сюжета о белорусском спорте.

А может быть я слишком независим, высказываю свою точку зрения, отличную от мнения того же Шпитальникова?! А слушать нужно только его. Еще бы – сидит в кресле главного более 20 лет и почему-то кажется, что до конца жизни.

А может из-за того, что я еще не «раскусил» и не понял мудрость его любимой поговорки: «Спасибо» в карман не положишь.

Кстати, по итогам декабря на творческую группу «Стадиона» была выписана премия в 150 тысяч рублей. Я получил 20 из них, но в ведомости обнаружил фамилии сотрудников, которые никакого отношения к созданию программы не имели. Получили они по 10–15 тысяч. Хотя честно тут странного, если такое положение вещей, в принципе, чуть ли не узаконено: на одной из редакционных летучек было прилюдно объявлено, что все редакторы обязаны вписывать в микрофонные папки и гонорарные ведомости фамилии главного редактора, главного режиссера и ответственного секретаря, хотя они, опять же, в создании передачи не участвуют.

***– Алексей, а почему бы тебе не обратиться за помощью, для решения различных вопросов, скажем, в худсовет (если он есть), местком, профком...***

– Я пытался. Но получается какой-то замкнутый круг. Как ни трудно попасть к тому же Рыбакову (мне все же это удавалось) он направляет вновь к моему главному. А если добавить, что Шпитальников – еще и крупный профсоюзный или месткомовский босс на БТ, вы должны все понять.

И в целом, смена руководства ведь ничего нового и хорошего не дала. Все осталось по-прежнему.

***– А что дальше?***

– Мне кажется, в ситуации с биатлоном и проявился стиль руководства главного редактора. Работа не на результат, а лишь имитация этой работы. Никаких острых углов, никакой конфронтации. Позиция для творчества совсем не приемлемая! Но, похоже, она устраивает всех. А значит – готовь еще одну дырочку для награды. ■

**Беседовал Владимир ДОВЖЕНКО**

**P.S.** Во вторник в редакцию позвонил Алексей Доваль и сообщил, что его отстранили от эфира. Продолжение следует?

КНІГАРНЯ

## Кнігі для студэнтаў, настаўнікаў, вучняў!

Сёння – кніга, па сутнасці, самы танны падарунак, які можна зрабіць сябрам, выкладчыкам, вучням, студэнтам. Тым больш, калі кніга карысная і дапаможа ў вучобе, навучы, узбагаціць ведамі.

Цікавыя і карысныя ўзоры новай беларускай кнігі можна знайсці на кніжнай выставе БНФ **(Мінск, вул. Варвашэні, 8. Блізка ад метро «Плошча Перамогі»).**










Галоўны рэдактар Павел ЖУК

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікавацца артыкулы дзеля палемікі.
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана ў друкарні УП «Мэджык»
г. Мінск, ул. Кнорына, 50. Заказ №174 Нумар падпісаны ў друк 13/02/2001 (15.00) Наклад – 9.350